11 ЖНІЎНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№90 (621) КОШТ СВАБОДНЫ

## ДЗЯРЖАВА ЦІЦЯНКОВА



стар.3

## Мемарандум
### Аб перагаворным працэсе

Мы, прадстаўнікі вядучых апазіцыйных партый,

*зыходзячы* з факта, што Вярхоўны Савет з'яўляецца адзіным легітымным органам улады ў Рэспубліцы Беларусь,

*адзначаючы*, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прызнаецца міжнароднымі структурамі, у тым ліку АБСЕ, адзіным законным парламентам Рэспублікі Беларусь,

*прызнаючы*, што Вярхоўны Савет быў абраны ў выніку дэмакратычных выбараў і волевыяўлення народа Беларусі і што мандат яго паўнамоцтваў канчаецца ў лютым 2001 года,

*вітаючы і падтрымліваючы* ініцыятыву перамоўнага працэсу, як сродку па выхадзе з глыбокага канстытуцыйнага, палітычнага і эканамічнага крызісу,

**заяўляем**

аб гатоўнасці ўсімі сродкамі садзейнічаць працэсу падрыхтоўкі і правядзення канструктыўных, рэальных, узаемаадказных перамоў,

аб перадачы Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь паўнамоцтваў на зацверджанне саставу дэлегацыі і мандата на вядзенне перамоў.

*Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада)* **М.Статкевіч**

*Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Партыі камуністаў Беларускай* **С.Калякін**

*Старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай партыі* **С.Багданкевіч**

*В.а.Старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Партыі Беларускага Народнага Фронту* **Л.Баршчэўскі**

*Старшыня Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады* **С.Шушкевіч**

*Старшыня Беларускай партыі працы* **Л.Лемяшонак**

*Старшыня Беларускай партыі жанчын «Надзея»* **В.Палевікова**

# Адзіная пазіцыя дэмакратычных сілаў
## Партыі дэлегавалі Вярхоўнаму Савету права на перамовы з цяперашняй уладай



Кожнаму кардынальнаму рашэнню дэмакратычных сілаў папярэднічае сур'ёзны «мозгавы штурм»

**Рыгор БУЯН**

**Аб'яднаная апазіцыя інтэнсіўна рыхтуецца да дыялогу з уладай. Перамоўны працэс пры пасрэдніцтве Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ мае пачацца ўжо ў верасні і мусіць паклаці канец процістаянню дзвюх галінаў улады ды вывесці краіну з канстытуцыйнага тупіка.**

Платформа, з якой апазіцыя збіраецца ісці на перамовы, выкрышталізоўваецца ўсё больш. Сем вядучых палітычных партыяў (БСДП (Народная Грамада), БНФ, АГП, БСДГ, ПКБ, партыя жанчын «Надзея», Беларуская партыя працы) зрабілі ход канём, які ў прынцыпе можа змяніць расстаноўку сілаў у дыялогу: яны ініцыявалі перадачу сваіх мандатаў на вядзенне перамоваў Вярхоўнаму Савету 13-га скліканя. Мікола Статкевіч, у сваім асабістым меркаванні, паставіў умову, што паўнамоцтвы і пазіцыю прадстаўнікоў палітычных партыяў зацвярджаюць статутныя органы гэтых партыяў.

У сваю чаргу прэзідыум ВС, які прайшоў 9 жніўня, «станоўча аднёсся да гэтай ідэі — зацвердзіць склад дэлегацыяў і атрымаць мандат на вядзенне перамоўнага працэсу ад вядучых апазіцыйных партыяў», — адзначыў пасля паседжання прэзідыума Анатоль Лябедзька. Гэта азначае, што дэ-факта дыялог на запланаваных перамовах будзе ісці паміж ВС, які збіраецца выражаць волю ўсіх апазіцыйных сілаў, і цяперашнім рэжымам. Такі падыход да перамоваў з боку апазіцыі даведзены кіраўніку КНГ АБСЕ Хансу-Георгу Віку на яго сустрэчы з кіраўніцтвам ВС і лідэрамі палітычных партыяў 10 жніўня.

Аднак, як сцвярджае старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч, перадача Вярхоўнаму Савету мандата на вядзенне перамоваў ад імя ўсёй апазіцыі не азначае, што парламент у сваіх дзеяннях будзе абсалютна самастойны. «Апазіцыя выпрацуе платформу, на аснове якой пры пасрэдніцтве АБСЕ будзе весці перамовы. Я лічу, што ВС асвеціць гэта сваім легітымным жэзлам. Але гэта не азначае, што Вярхоўны Савет будзе сам усё рашаць. Гэта значыць, што палітычныя партыі, якія ўваходзяць у апазіцыю, прызнаюць Вярхоўны Савет, яго легітымнасць, добраахвотна перадаюць свае паўнамоцтвы. А Вярхоўны Савет будзе цесна кантактаваць у выпрацоўцы ўсіх канчатковых рашэнняў з палітычнай апазіцыяй», — заявіў у інтэрв'ю НАВІНАМ С.Багданкевіч.

Апазіцыя плённа рыхтуецца да перамоваў. Але ўся іх работа можа змарнавацца, калі існуючы рэжым адмовіцца весці дыялог з аб'яднанай апазіцыяй у асобе ВС. Такога зыходу выключаць нельга. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### РНЕ ужо ў Шклове

Пад Шкловам з'явіліся малойчыкі Расійскага нацыянальнага «Единства» (РНЕ) у колькасці 50 чалавек. Яны разбілі свой лагер, з'явіліся ў раённым цэнтры, расклеілі ўлёткі з заклікам: «Чым больш фашызму, тым лепш», і зніклі. Асобныя жыхары абласнога цэнтра бачылі іх пад Магілёвам, аднак у горадзе яны пакуль не з'явіліся.

**Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ**

### На футбол – з бел-чырвона-белымі сцягамі

Роўна праз тыдзень, 18 жніўня, на мінскім стадыёне «Дынама» мусіць адбыцца таварыскі матч па футболе Беларусь—Расія. Папярэдні матч паміж імі скончыўся з лікам 1:1, і таму новы матч усё вырашыць. Маладзёжная арганізацыя Малады Фронт прапанавала ўсім прыйсці на матч і «паказаць таварышам з Усходу, якога колеру нашыя нацыянальныя сцягі». Хлопцы плануюць таксама прынесці на стадыён бел-чырвона-белыя сцягі.

### Гаянская жанчына-прэзідэнт пайшла ў адстаўку

78-гадовая Джэнет Джэган, прэзідэнт Гаяны, вырашыла пайсці ў адстаўку з нагоды свайго кепскага здароўя. Апошні месяц яна правяла ў шпіталі ў ЗША — лячылася пасля мікраінфаркту.

Выступаючы па нацыянальным тэлебачанні, яна паведаміла, што перадае ўладу 35-гадоваму міністру фінансаў Гаяны Бхарату Джэджаа. Такім чынам, Джэнет Джэган адразу разбурыла ўсе планы апазіцыі, якая выступала за імпічмент ёй.

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

наша свабода

## НАДВОР'Е




**12—13 жніўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер заходні, паўночна-заходні, 5—10 м/сек. Пры навальніцах парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра **12 жніўня** ўначы 11—16, **13 жніўня** па **Гродзенскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай** вобласці — 8—13, па **Брэсцкай** — 9—14, па **Гомельскай** — 10—15 градусаў.

### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**450 000**

# Шура развальвае Расію
## Усходні сусед уцягваецца ў новую вайну

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Новы рашучы крок па развале Расіі быў зроблены ўчора. Як паведаміла агенцтва «Интерфакс», у аўторак у 6 гадзінаў раніцы ісламская шура – савет каўказскіх народаў – абвесціла пра стварэнне незалежнай Ісламскай Рэспублікі Дагестан.**

Шура абвесціла свяшчэнную вайну – джыхад – усім няверным да поўнага выгнання іх з мусульманскай тэрыторыі. Яна таксама звярнулася да чачэнскага народа з просьбай аб падтрымцы.

Ісламская шура выключае любую магчымасць перамоваў з расійскім кіраўніцтвам. «Размова можа ісці толькі пра поўны вывад войскаў і прызнанні суверэннага Дагестана», — адзначылі прадстаўнікі шуры.

Тым часам, старшыня Дзяржсавета Дагестана Магамедаў заклікаў жыхароў рэспублікі, «пачынаючы з сённяшняга дня, жыць па-іншаму... Усе мусяць быць адкліканы з адпачынкаў, быць гатовымі пайсці на матэрыяльныя ахвяры і рыхтавацца сябе да таго, каб змагацца са зброяй у руках».

Прадстаўнікі федэральнай Расіі адмаўляюць само існаванне шуры, называюць паўстанцаў «бандытамі» і хваляцца, што ўжо знішчылі больш за 40 чалавек. У панядзелак зранку ў раёне Батліхскага аэрадрома быў абстраляны верталёт начальніка генеральнага Штаба Расіі генерала Анатоля Квашніна. Па аэрадроме быў нанесены моцны агнявы ўдар. Два верталёты былі спаленыя, яшчэ два атрымалі моцныя пашкоджанні. У выніку абстрэлу загінуў Герой Расіі, падпалкоўнік Юрый Наумаў.

Тым часам, в.а. старшыні расійскага ўрада Уладзімір Пуцін мяркуе, што «за тыдзень-паўтара праблема Дагестана будзе вырашаная». Колішні міністр абароны Расіі Павел Грачоў «Паша-мерседэс» сцвярджаў, што Грозны можна ўзяць адным палком дэсантнікаў. У выніку чачэнская вайна зацягнулася на гады і пацягнула за сабой дзесяткі тысяч ахвяраў. Што стане з Дагестанам і ўсёй Расіяй, пакуль не ведае ніхто. ■

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



СЕРАДА з Аляксандрам ДУБРАВІНЫМ

## Ахопленыя жахам і вінОм

Жыццё рэгулярна, жорстка і рашуча абвяргае марксістаў. Па ўсіх напрамках і па ўсіх артыкулах. Найбольш велічнае і фундаментальнае сцвярджэнне марксізму-ленінізму, што, нібыта, рабочы клас — самы перадавы і рэвалюцыйны, — аказалася лухтой. Патрэбна была толькі адна, але сапраўдная праверка. І яна адбылася. У нас, на Беларусі.

Вось вынікі: рабочы клас — гэта самая палахлівая, неарганізаваная, несвядомая і забітая частка насельніцтва. У гэтым сэнсе сельскае насельніцтва стаіць на прыступку вышэй, бо нават мае сваю, Аграрную, палітычную партыю. Рабочы клас моліцца толькі на прафсаюзы — бездапаможныя, нерашучыя і ахопленыя жахам перад уладай утварэнні на чале з функцыянерамі-канфармістамі. Чакаць ад іх сапраўднай абароны інтарэсаў рабочага класа — нерэальна. Яны ўжо пабудавалі для сябе цёплае жыццё, і гэтага досыць.

А што ж самі рабочыя? Можа іх усё задавальняе? Зарплата — пяць—шэсць каляровых фотаплёнак альбо адна вячэра ў нармальным рэстаране. Кватэра — панэльная шпакоўня са смуроднымі пад'ездамі. Ежа — выпадковая, самаробная, што вырасце на градах альбо пад нагамі. Ахова здароўя — са сваімі прасцінамі, шпрыцамі і лекамі. Адпачынак — ураскарачку на сваіх сотках альбо на Мінскім моры.

Чаму ж тады беларускія рабочыя не патрабуюць лепшай долі, не выступаюць супраць эксплуатацыі іх працы наменклатурай рэжыму? Як яны могуць глядзець у вочы сваім дзецям, прыносячы дадому такую зарплату?

А яны проста баяцца. Баяцца, што адбяруць і гэта. У прынцыпе, нашым рабочым можна ўвогуле не плаціць. Трэба толькі выдаваць вопратку і абутак ды дазволіць красці на родным прадпрыемстве ўсё, што дрэнна ляжыць. Тым больш, што адна заваёва ў іх усё ж ёсць: самая танная ў свеце гарэлка і пладова-ягаднае віно. (Ці не таму Лукашэнку любяць пралетарыі Расіі?)

Карыстаючыся прафсаюзным анабіёзам, улада яшчэ мацней заціскае рабочага ў кут. А той і не піскне. Скажуць, будзе працаваць у суботу і нядзелю. Скажуць, будзе дакладваць у кампетэнтныя органы на свайго таварыша. Скажуць, пойдзе шукаць ворагаў сярод сваіх суседзяў. Нездарма столькі былых рабочых сёння сярод тых, хто з дубінкай палюе на сумленных і свядомых грамадзянаў нашай краіны.

Не трэба ілюзіяў. Пакіньце рабочага ў спакоі. Беларускі пралетарыят — гэта праслойка пад міліцыяй і наменклатурай. А выключэнні з правілаў толькі падмацоўваюць правілы.

## Сямёну Шарэцкаму ў Літве падабаецца

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі сцвярджае, што «адчувае сябе ў бяспецы» ў Літве. Пра гэта ён заявіў у сваім інтэрв'ю буйнейшаму літоўскаму штодзённіку Lietuvos Rytas.

Нагадаем, што С.Шарэцкі знаходзіцца ў Літве з 22 ліпеня, куды ён з'ехаў, каб схавацца ад пераследу ўладаў. Ён жыве ў Вільнюсе на канспіратыўнай кватэры пад узмоцненай аховай. Тым не менш, па словах спікера, ён знаходзіць час, каб сустракацца з саратнікамі, займацца беларускімі справамі і нават вывучаць літоўскую мову.

Як сцвярджае Шарэцкі, пакуль ён застанецца ў Літве: «Я хацеў бы падзякаваць Богу, што Літва ўжо змагла вярнуць сабе незалежнасць. Тут ёсць дэмакратыя, свабода, таму я вырашыў з'ехаць сюды. Тут я адчуваю сябе ў бяспецы».

Тым часам, як паведаміў дарадца літоўскага прэзідэнта Альбінас Янушка, ягоны шэф, Валдас Адамкус, не збіраецца сустракацца з Шарэцкім. Пра гэта А.Янушка паведаміў пасля сустрэчы з беларускім амбасадарам у Літве Уладзімірам Гаркуном. У.Гаркун апошнім часам неаднаразова папярэджваў літоўскія ўлады, што афіцыйны Мінск незадаволены знаходжаннем Шарэцкага ў Літве. ■

ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

А нас пакуль палітыка не цікавіць

## Экс-міністра Захаранку будуць шукаць за мяжой

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

Больш за тры месяцы мінула з часу таямнічага знікнення ў цэнтры Мінска экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі. Вынікі пошуку былога міністра ўчора распавялі жонка і дачка, а таксама члены грамадскай камісіі.

Аляксандр Лукашэнка ўжо заявіў на ўсю краіну, што Захаранка стаў ахвярай крымінальнікаў, у якіх ён, нібыта, пазычыў вялікую суму грошай. Родныя і калегі экс-міністра лічаць гэтыя заявы гнуснай хлуснёй. Паводле словаў дачкі былога міністра Алены, за некалькі дзён да знікнення бацька сказаў ёй, што за ім пастаянна сочаць нейкія людзі.

А тым часам грамадская камісія, якую ўзначаліў былы следчы Алег Волчак, вядзе ўласнае расследаванне. Праўда, магчымасці гэтай структуры па пошуках генерала значна абмежаваныя. Згодна з беларускім заканадаўствам, грамадскія арганізацыі не маюць права праводзіць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, таму праца камісіі зводзіцца ў асноўным да збору і аналізу паступаючай інфармацыі. Тым не менш часам трапляе вельмі цікавая інфармацыя, у тым ліку і з сілавых структураў, аднак, каб не нашкодзіць ходу расследавання і інтарэсам родных Захаранкі, члены камісіі вырашылі пакуль іх не абнародваць. Тым не менш удзельнікі прэс-канферэнцыі адзначалі, што будуць і надалей займацца пошукамі генерала Юрыя Захаранкі, у тым ліку і адпрацоўваць версію ўтрымання экс-міністра на адным з засакрэчаных аб'ектаў. Алег Волчак і Уладзімір Арыстаў таксама не выключаюць, што Захаранку маглі вывезці і за мяжу, таму прадстаўнікі камісіі збіраюцца звярнуцца да паліцэйскіх прафсаюзаў некалькіх еўрапейскіх краінаў з просьбай пашукаць генерала на тэрыторыях гэтых дзяржаваў. ■

## Польшча патрабуе выдачы «сталінскага пракурора»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Генеральны пракурор Польшчы Ханна Сухоцка падпісала ў панядзелак просьбу да Вялікабрытаніі аб выдачы «сталінскага пракурора» Хелены Валінскай. Пані Валінска ў часы камуністычнай Польшчы шмат зрабіла для таго, каб сфабрыкаваць доказы, неабходныя для павешання аднаго героя Другой сусветнай вайны і засадзіць за краты яшчэ 14 чалавек.

«Польшча зрабіла тут усё, што магла, цяпер справа за Вялікабрытаніяй», — заявіла прэс-сакратар Ханны Сухоцкай. 79-гадовая Хелена Валінска, якая цяпер з'яўляецца грамадзянкай Вялікабрытаніі і жыве ў Оксфардзе, абвінавачваецца ў фальсіфікацыі доказаў супраць героя Другой сусветнай вайны генерала Эміля Фельдорфа. Ёй пагражае да 10 гадоў турэмнага зняволення.

Генерал Эміль Фельдорф стаяў на чале падпольнай Арміі Краёвай, якая змагалася як супраць фашыстаў, так і супраць камуністаў. Пасля заканчэння вайны генерал адмовіўся супрацоўнічаць з савецкай выведкай і быў пакараны. У 1952 годзе Фельдорфа абвінавацілі ў забойстве савецкіх вайскоўцаў і партызанаў, а яшчэ праз год павесілі.

Гісторыкі цяпер сцвярджаюць, што доказы супраць яго былі сфабрыкаваныя. У сакавіку Вышэйшы вайсковы суд вырашыў, што мае дастаткова сведчанняў, каб выпісаць ордэр на арышт Ханны Валінскай.

Пані Валінска, габрэйка па паходжанні, пакінула Польшчу ў 1968 годзе, пасля шырокай антысеміцкай кампаніі, разгарнутай у краіне. Яна называе сваю справу «палітычнай» і мяркуе, што працэс над ёй не зможа быць аб'ектыўным у Польшчы. ■

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Збройны скандал у Казахстане

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў адправіў у адстаўку свайго міністра абароны і сакратара Савета бяспекі за продаж шасці МіГаўскіх вынішчальнікаў.

Пасля паседжання Савета бяспекі, якое адбылося ў панядзелак, Назарбаеў звольніў усё кіраўніцтва міністэрства абароны і Савета бяспекі, а таксама кіраўніцтва кампаніі, якая аказалася ўцягнутая ў скандал.

Сам скандал пачаўся 19 сакавіка гэтага года, калі ў азербайджанскай сталіцы, Баку, на борце расійскага самалёта «Руслан», які кіраваўся ў Югаславію, былі знойдзеныя 6 МіГаў у разабраным стане. Самалёт прыляцеў у Баку з Казахстана. Азербайджанскія ўлады арыштавалі «Руслан» з усім ягоным начыннем – бо ўвоз зброі ў Югаславію быў забаронены адмысловым рашэннем ААН.

Экіпаж арыштаванага самалёта спачатку казаў, што МіГі прызначаліся для Паўночнай Карэі. Расійскія ўлады сцвярджалі, што вынішчальнікі везліся ў Славакію, а казахстанскі ўрад казаў – што ў Чэхію. У выніку казахстанская кампанія, якая і была прадаўцом МіГаў, прызналася, што самалёты прызначаліся для Босніі і Герцагавіны.

Пад канец красавіка Азербайджан вярнуў вынішчальнікі Казахстану. Тым не менш, казахстанскія сілавыя структуры ў той момант адмовіліся праводзіць расследаванне па факце продажу МіГаў. Цяпер, па настойлівай прапанове Назарбаева, расследаванне ўсё ж будзе распачатае.

Нагадаем, што на борце затрыманага ў Баку «Руслана» знаходзіліся таксама некалькі беларускіх грамадзянаў. Усе яны – спецыялісты па абслугоўванні МіГаў. ■

АНЕКДОТ НУМАРА

Стары яўрэй памірае і, лежачы на смяротным ложы, кажа:
— Я заўсёды піў гарбату дома з адной лыжкай цукру, у гасцях — з трыма... А любіў піць — з дзвюма.

## Чарговая сесія ВС збярэцца ў верасні

Рыгор БУЯН

Кіраўніцтва ВС 13 склікання вызначыла папярэднюю дату правядзення чарговай сесіі парламента — яна пройдзе 1—2 верасня. Выканаўца абавязкаў старшыні камісіі па міжнародных справах Анатоль Лябедзька назваў прыблізную павестку дня. Парламент заслухае палітычны даклад, падрабязна прааналізуе сітуацыю ў краіне і заадно «прэзентуе планы работы ВС да заканчэння яго паўнамоцтваў». Другім пытаннем стаіць справаздача мандатнай камісіі — яна зачытае даклад пра колькасны склад ВС. Сесія, зразумела, не зможа абысці ўвагай і перамоўны працэс з цяперашнім рэжымам, пачатак якога чакаюць у пачатку верасня.

За 7—10 дзён да сесіі адбудзецца яшчэ адно паседжанне прэзідыума ВС, якое больш дэталёва распіша павестку дня. ■

## Расійская станцыя «стартуе» ў 2000 годзе

Алег САКАЛОЎ, БелаПАН

Расійская радыёлакацыйная станцыя далёкага выяўлення тыпу «Волга» сістэмы папярэджання аб ракетным нападзе, якая будуецца пад Баранавічамі (Брэсцкая вобласць), будзе прынятая ў доследную эксплуатацыю ў снежні 1999 года, а ўжо ў 2000 годзе прыступіць да баявога дзяжурства ў поўным аб'ёме. Пра гэта паведамілі расійскія СМІ са спасылкай на галоўнакамандуючага ракетнымі войскамі стратэгічнага прызначэння Расіі Уладзіміра Якаўлева.

Паводле інфармацыі СМІ, цяпер будаўніцтва станцыі вядзецца поўным ходам — у збудаваннях прыёмнага і перадаючага комплексаў завяршаюць аддзелку, вядзецца мантаж іхняга «электроннага» начыння. Паведамляецца таксама, што менавіта з электронікай узніклі нечаканыя праблемы: антэнныя модулі станцыі па каапераццыі яшчэ з савецкіх часоў збіраліся на Украіне, на Днепрапятроўскім машынабудаўнічым заводзе, і цяпер украінскае прадпрыемства настойвае амаль на чатырохкратным павелічэнні сумы кантракта за пастаўку «начыння». Калі бакі не здолеюць дамовіцца, то Расія будзе вымушаная размясціць заказ на прадпрыемствах уласнага ваенна-прамысловага комплексу ў Маскве і Рыбінску. Праўда, як сцвярджаецца, на тэрміны ўводу ў дзеянне станцыі гэта не паўплывае. ■

## Статкевіч не жадае быць двойчы асуджаным

Рыгор БУЯН

Старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікола Статкевіч 10 жніўня заявіў, што адмаўляецца «ад свайго подпісу, дадзенага 4 жніўня пад падпіскай аб нявыездзе».

Нагадаем, што 28 ліпеня суддзя Савецкага суда Мінска Іна Шэйко прысудзіла Міколу Статкевічу 10 сутак адміністрацыйнага арышту за арганізацыю шэсця ў Дзень Незалежнасці, 27 ліпеня. Тым жа днём супраць лідэра БСДП узбудзілі крымінальную справу па арт.186/3/ КК. 4 жніўня следчы Мінскай гарадской пракуратуры Валерый Коранеў наведаў Статкевіча ў спецпрыёмніку-размеркавальніку МУС і ўзяў з яго падпіску аб нявыездзе. Ужо на волі, як сцвярджае Мікола Статкевіч, ён зразумеў, што «крымінальная справа супраць мяне ўзбуджаная незаконна». Таму лідэр Народнай Грамады адмовіўся ад свайго подпісу пад падпіскай аб нявыездзе і з гэтага моманту лічыць сябе «незвязаным з дадзенай падпіскай». ■

## Булыгін яшчэ лётае

Мікола ВАЙТОВІЧ

Камандуючы ваенна-паветранымі сіламі Беларусі, генерал-маёр Сяргей Булыгін абверг інфармацыю пра тое, што супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа. Нагадаем, у прэсе паведамлялася, што супраць камандуючага С.Булыгіна і генеральнага дырэктара ЗАТ «Тэх Авія Сервіс», у мінулым адной з вышэйшых службовых асобаў ВПС, Уладзіміра Жыгачова была ўзбуджаная крымінальная справа. Падставай для яе сталі матэрыялы, сабраныя ваеннымі контрразведчыкамі. У.Жыгачову інкрымінаваліся крадзеж маёмасці шляхам прысваення, растраты ці злоўжывання службовым становішчам, а С.Булыгіну — злоўжыванне ўладай, перавышэнне ці бяздзейнасць улады. Генерал-маёр патлумачыў журналістам, што крымінальная справа ўзбуджаная толькі супраць ЗАТ «Тэх Авія Сервіс», якое супрацоўнічала з авіяцыяй і ваенна-паветранымі сіламі. Гэтая фірма існуе каля шасці гадоў, і за гэты час «нейкія самалёты і верталёты здаваліся ў арэнду». Па словах Булыгіна, праваахоўныя органы разбіраюцца з пытаннямі 1994—1996 гадоў, сам жа Сяргей Кузьміч прыступіў да абавязкаў камандуючага ў лістападзе 1997 года. Па словах генерал-маёра, ёсць, аднак, пытанні, звязаныя з часам ягонага камандавання, і ён вымушаны ўдзельнічаць у гэтым разбіральніцтве. С.Булыгін падкрэсліў, што супраць яго «ніякіх крымінальных праследаванняў няма», інакш прэзідэнт і сакратар Савета бяспекі не пакінулі б яго кіраваць ваенна-паветранымі сіламі.

Па словах Булыгіна, пасля распаду СССР Беларусь атрымала самае буйное авіяцыйнае аб'яднанне з тэхнікай, якой хапіла б на чатыры Беларусі. Вялікая частка верталётаў і самалётаў аказалася лішняй, і яе было мэтазгодней адправіць на металалом альбо рэалізаваць. Цяпер на ўзбраенні ў нашай краіне засталося каля 500 самалётаў і верталётаў. Сам генерал-маёр С.Булыгін лятае на СУ24М. Самая галоўная праблема — недастатковае фінансаванне, пагэтаму, рэалізуючы лішнюю тэхніку, авіяцыя спрабавала папраўіць свой бюджэт. ■

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



СКАНДАЛ

# Усё на продаж!

## Чарговыя прыродныя тэрыторыі краіны далучаныя да «дзяржавы» прэзідэнцкага заўхоза Івана Ціцянкова

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**Белкаапсаюз і Белміжкалгасздраўніца не хочуць аддаваць свае санаторыі ў Нарачы кіраўніку справаў прэзідэнта Івану Ціцянкову. Як мы ўжо паведамлялі, гэтыя аб'екты ў якасці нацыянальнага парку «Нарачанскі» далучаныя прэзідэнцкім указам да неабсяжнай гаспадаркі ўсемагутнага «заўхоза». На мінулым тыдні сарвалася сустрэча прадстаўнікоў гэтых ведамстваў з новым гаспадаром.**

Пытанні перадачы санаторыяў для ўпраўлення справаў ужо не актуальныя. Дырэктарам новага парку прызначаны былы кіраўнік мінскага санаторна-аздараўленчага цэнтра «Юнацтва» Сяргей Гомза. Сам Ціцянкоў таксама наведаў Нарач, каб даць першыя ўказанні. Мясцовыя жыхары спадзяюцца, што Іван Іванавіч перацягне свой карабель з дыскатэкамі, якія цягнуцца да глыбокай ночы, перашкаджаючы адпачынку, на бераг каля пансіяната «Сосны», дзе звычайна адпачываюць высокапастаўленыя чыноўнікі з Мінска. Няхай яны там танчаць хоць усю ноч, як гэта прынята на еўрапейскіх курортах. Тым болей, што «Сосны» ўжо даўно належаць упраўленню справаў. Пакуль жа карабель размяшчаецца каля двух іншых санаторыяў, дзе адпачываюць простыя людзі. Дарэчы, урачы не раяць ім купацца ў квадрацы, прылеглым да знакамітага плаваючага аб'екта. Санаторыі «Будаўнік» і «Прыазёрны» быццам замерлі ў чаканні новай улады.

«Будаўнік» належыць Белміжкалгасздраўніцы, а дакладней, з'яўляецца ўласнасцю рэспубліканскага Савета калгасаў, кіраўніцтва якога адмовілася падпісаць перадачу здраўніцы Ціцянкову. На глебе гэтых разборак кіраўнік Белміжкалгасздраўніцы спадар Нячаеў трапіў у бальніцу — не вытрымала сэрца. Першы намеснік Савета калгасаў Васіль Шулякоўскі сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што лёс «Будаўніка» можа вырашыць выключна толькі сам Савет, у які ўваходзяць 250 прадстаўнікоў калгасаў краіны. Збярэцца ён на чарговае пасяджэнне толькі ў лістападзе, а да гэтага часу ні прэзідэнт, ні ягоны «заўхоз» не маюць права адабраць у калгаснікаў папулярную лячэбніцу. У кіраўніцтве Савета калгасаў спадзяюцца, што Ціцянкоў у крайнім выпадку выкупіць «Будаўніка», калі гэта яму надта спатрэбілася. Пакуль жа з кіраўніцтвам Савета ніхто па гэтым пытанні нават не раіўся. Як паведамілі ў Белміжкалгасздраўніцы, у «Будаўнік» укладзена шмат сродкаў, адрамантаваныя харчблок, холы, дах, пракладзены водаправод для мінеральнай вады. У гэтым санаторыі, даступным па коштах для калгаснікаў, у летні сезон адпачывалі каля 300 чалавек. Дарэчы, сёлета другім прэзідэнцкім указам у калгаснікаў з 1 верасня адбіраюць здраўніцу ў Нясвіжы. Прычым з уласнікам аб'ектаў ніхто нават не раіцца, яго проста ставяць перад фактам. Праўда, міністэрства культуры паабяцала аддаць з чужой здраўніцы медабсталяванне і ложкі. Белміжкалгасздраўніца спадзяецца цяпер атрымаць значную кампенсацыю ад Ціцянкова за нарачанскі аб'ект, якая пойдзе на будаўніцтва новага санаторыя для калгаснікаў «Вячэлле» ва Ушацкім раёне, альбо ўрэшце ўзамен ім перададуць «Жураўушку» на Нарачы, якая з'яўляецца ўласнасцю Мінскхлебпрама. Сапраўды, дзіўна, што Іван Іванавіч не замахнуўся на іншыя нарачанскія здраўніцы, якія належаць міністэрству ўнутраных справаў ці рэспубліканскім прафсаюзам. Ён проста вырашыў, што лягчэй справіцца менавіта з калгаснікамі, знясіленымі на бітвах за ўраджай.

Другі нарачанскі санаторый «Прыазёрны», які таксама прыхапіў Ціцянкоў, належыць Белкаапсаюзу, таксама здавацца проста так не збіраецца. Як толькі пайшлі чуткі наконт захопу «Прыазёрнага», уласнікі спынілі будаўніцтва новага лячэбнага корпуса і сталовай, бо навошта траціць грошы, калі яны ўсё роўна прападуць. У Белкаапсаюзе не маюць ілюзіяў, упраўленне справаў прэзідэнта не будзе з імі цырымоніцца. Наўрад ці ўдасца цяпер старшыні Белкаапсаюза Віктару Уладыку адстаяць ведамасную ўласнасць альбо атрымаць кампенсацыю. Ціцянкову ж дазволена ўсё. Цікава, якая чарговая тэрыторыя Беларусі будзе далучаная да «заўхознай» дзяржавы? ■



● **Іван Ціцянкоў** не толькі любіць жывую прыроду, але і прыглядаецца да спорту

ТЭНДЭНЦЫІ

# Полицейское государство

**Ежедневно сотрудники Белорусского Хельсинкского комитета становятся свидетелями людских трагедий и страданий. В комитет обращаются граждане, оказавшиеся жертвами несправедливых и незаконных действий властных и правоохранительных структур.**
**Сегодня НАВІНЫ публикуют некоторые из этих свидетельств.**
**В отдельных случаях, из-за невозможности проверить тот или иной факт, указанные в свидетельствах фамилии должностных лиц были нами изменены либо сокращены до одной буквы.**

### Гомель

Сергей Кизёв, руководитель свободного профсоюза частных предпринимателей Гомельской области:

«18 июня на Центральном колхозном рынке, проходя мимо стоящей с моим торговым местом палатки, я стал свидетелем того, как два человека грубо обращались к хозяйке палатки и незнакомому человеку. Я спросил: «В чём дело?» В ответ мне в грубой форме предложили убираться. Я представился председателем профсоюза. Незнакомцы ответили, что наденут на меня наручники и посадят в каталажку, тогда я стану более покладистым и не стану лезть не в свои дела. Один из нападавших куда-то побежал, второй представился сотрудником Железнодорожного ОБЭП Гомеля. Второй, оказавшийся также милиционером, привёл наряд милиции и указал на нас пальцем. В группе, на которую указал милиционер, оказались я, хозяйка палатки и покупатель Александр Рымский. При всех этих действиях милиционеры пользовались грубейшими формами обращения, невежественными оборотами речи, угрозами. Нас всех арестовали, отвезли в Железнодорожный РОВД, развели по разным комнатам и стали принуждать подписать фальшивые протоколы о правонарушениях, якобы нами совершённых. Так, я слышал, как в соседней комнате принуждали Андрея Чеботкова подписать протокол правонарушения ст. 166 УК. Между собой в нашем присутствии советовались, какую статью правонарушения нам приписать. Меня и совершенно случайного прохожего А.Рымского сцепили наручниками крест-накрест и вместе с Чеботковым и случайно задержанным затолкали в милицейский автомобиль. Нас всех втиснули с наручниками в 32-градусную жару в помещение, рассчитанное на двоих. После чего повезли в суд Центрального района, где судья Марина Домненко за несколько минут решила вопрос о нашей виновности в нарушении статьи 166 УК Беларуси. Мы не оказывали никакого сопротивления, несмотря на невыносимую грубость работников милиции и избиение Андрея Чеботкова.

Изложенные мною факты могут подтвердить потерпевшие и участники события, а также свидетели на рынке. Меня забрали, не позволив присмотреть за выставленным товаром в 100 млн. рублей. Когда я вернулся и пересчитал товар, исчезли товары и продукты на сумму более 35 млн. рублей. До 5 июля 1999 года судья М. Домненко не предоставляла мне протокол судебного заседания и решения суда в связи с тем, что они не готовы.



Изложенные факты могут подтвердить Андрей Чеботков, Фатима Цгоева, Татьяна Убиенцева, Виталий Дорошков, Геннадий Иваненко».

Постановление суда: 18 июня С.Кизёв оказал неповиновение сотрудникам милиции, воспрепятствовал составлению документов. Суд постановил подвергнуть его штрафу в размере 5 млн. рублей.

С.Кизёв направил жалобу на действия сотрудников милиции Пономаренко и Матюшенко председателю областного суда Гомельской области и прокурору Гомельской области.

### Минск

9 июля 1999 года в 21.30 на Минской кольцевой дороге сержантами ГАИ был задержан Олег Бадерин, житель Пинска. Увидев написанную от руки доверенность на пользование автомобилем, сержант О. начал кричать на Бадерина, утверждая, что бумага недействительна. Бадерин пояснил, что по вступившему в силу Гражданскому кодексу от 1 июля 1999 года такая доверенность действует. О. начал угрожать Бадерину и оскорблять его. Из речей сержанта О. было видно, что он рассержен тем, что Бадерин самостоятелен и юридически образован. Затем О. бездоказательно обвинил Бадерина в краже машины, отнял ключи и повёз Бадерина на его машине в отделение милиции. При этом О. всячески оскорблял и унижал Бадерина. Более 2 часов Бадерин просидел в дежурной части. Никто из милиционеров не желал заниматься его делом. Через 2 часа Бадерина позвали в кабинет, сообщили, что машина не угнана, но не извинились, а заявили, что он всё равно должен быть виноват и поэтому обязан подписать протокол правонарушения ст. 117 КоАП. Усталый и измученный, Бадерин подписал протокол, надеясь, что его вместе с машиной отпустят. Но сержант О. со смехом и издевательствами заявил, что машина будет поставлена на штрафную площадку, а Бадерин может жаловаться хоть президенту, правды не найдёт. На окраине города, на штрафной площадке, оформив документы, милиционеры оставили Бадерина и уехали смеясь. Им показалось смешным, что в два часа ночи и без денег Бадерин должен остаться в чужом городе.

### Пинск

8 июля 1999 года в Пинске около 18.00 в районе продовольственного магазина № 44 по ул. Первомайской во время облавы милиции на торгующих в неположенном месте была задержана Ольга Вабищевич, которая купила стакан черники и ждала из магазина мужа и годовалого ребёнка. Майор милиции В., задержавший Ольгу, провёл её в микроавтобус. Там задержанной стало плохо от жары. Она попросилась на улицу, тем более что возле магазина её искали муж и ребёнок. Милиционеры нагрубили ей. Тогда Ольга вышла из автобуса. Майор В., стоявший у машины, начал закручивать ей руки. Ягоды в руке женщины раздавились и сок брызнул на рубашку. Это взбесило майора, тот сбил женщину с ног. Стоящие рядом милиционеры стали наносить ей удары ногами. Она потеряла сознание. Её взяли за руки и за ноги и бросили в микроавтобус. В участке, когда она очнулась, её стали запугивать, что осудят по 166-й статье (сопротивление работникам милиции). Обещали отпустить, если она подпишет протокол, что торговала в неположенном месте. Вабищевич подписала чистый бланк протокола, потому что иначе её обещали посадить в тесную клетку, а ей было очень плохо физически. В травмопункте женщине оказали помощь.

*Всего на протяжении лета 1999 года в Белорусский Хельсинкский комитет поступило 10 подобных заявлений от граждан Беларуси. БХК считает, что политика государства направлена на увеличение численности правоохранительных органов, придание им карательных функций. Милиция предпринимает усилия по подавлению любой гражданской, политической и экономической самостоятельности и приводит к созданию сообщества, основанного на страхе, лжи и насилии, а не на силе закона.*

**Служба мониторинга БХК, региональных отделений БХК.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



УСХОДНІ НАПРАМАК

# «Цэнтр новай сілы»

**Кастусь ТАРАСАЎ**

**У інтэрв'ю «Российской газете» А. Лукашэнка заявіў, што беларуска-расійскі саюз можа стаць магутным геапалітычным блокам. Паводле яго словаў, «гэта будзе цэнтр, які будзе супрацьстаяць і амерыканцам, і Заходняй Еўропе». Лукашэнка згодны, што не ўсе хочуць бачыць «новае геапалітычнае ўтварэнне, якое будзе цэнтрам новай сілы».**

Пытанні геапалітыкі — рэч малацікавая для простага расійскага чалавека, бо ён на геапалітыку ніяк не ўплывае і мае дужа спрошчаную інфармацыю пра змест геапалітычных інтарэсаў Расіі, прыкладам, на Сярэднім Усходзе. Тым больш, геапалітыка нецікавая для простага чалавека на Беларусі, паколькі тут ужо з гадоў трыста як знікла традыцыя геапалітычнага мыслення. Знікла, бо не было сваёй дзяржаўнасці і адпаведных груповак. Геапалітыка патрабуе мець пэўны патэнцыял: на сённяшні дзень гэта энерганосьбіты, карысныя выкапні, зручны выхад да мора, карацей кажучы, валоданне нечым, што мае стратэгічную значнасць. Беларусь, аднак, валодае адзіным стратэгічным рэсурсам — скразным шляхам з усходу на захад ці з захаду на ўсход (у залежнасці ад пункту гледзішча). І апроч гэтай стратэгічнай шашы — нічога. Не надта многа, каб прэтэндаваць на ўласныя геапалітычныя амбіцыі, мець уплыў на геапалітычны расклад Еўропы. Такі ўплыў няма чым забяспечыць.

Таму прыходзіцца думаць, выказванне А.Р. Лукашэнкі адрасаванае тым палітычным колам Расіі, якім пажадана, каб у верасні Б.Ельцын падпісаў саюзную дамову з Беларуссю. Падпісаны на ўмовах беларускага боку дагавор стварыць з Расіі (з 10-мільённым беларускім дадаткам жывой сілы і стратэгічнай шашой) «цэнтр новай сілы». Але Расія і сёння мае геапалітычныя інтарэсы, якія сягаюць на ўсе кантыненты, уключаючы Антарктыду. Далучэнне Беларусі не можа іх павялічыць ці ўзмацніць, як недалучэнне — паменшыць.

Мы цалкам залежныя ад расійскіх энерганосьбітаў, а ідэалагічна залежым можа нават болей, чым ад паставак нафты і электрычнасці. Пяць гадоў для насельніцтва старанна стваралі вобраз ворага на



Захадзе і вобраз сябра («праваслаўныя браты-славяне») — на Усходзе. Галоўная хіба Расіі, як даводзіла наша ўрадавая ідэалагічная служба, — няўдалае кіраўніцтва. Беларускае радыё пастаянна агучвае тэзіс, што Ельцын не клапоціцца пра сваю краіну (і пра СНД), а прэзідэнт Беларусі — адзіны, хто можа адстойваць страчаныя сацыялізмам пазіцыі.

Далучэнне Беларусі да Расіі задавальняе настроі таго мноства людзей, якія жадаюць вярнуць імперскія набыткі, узмацніць ілюзію аднаўлення федэратыўнай дзяржавы (у межах былога СССР). Гэта — пажаданы адказ на крыўднае асэнсаванне бедстваў апошняга часу: хітры Захад абвёў вакол пальца М. Гарбачова, каб развaліць Савецкі Саюз. Пра афганскую вайну, гонку ўзбраенняў, ваенна-прамысловы комплекс, які пажыраў бюджэт, зразумела, не ўзгадваецца. Людзям даводзяць, што прыйшоў час «пить тот самый чай со слонами».

Як палітык, якога не задавальняе рэспубліканскі маштаб, А. Лукашэнка лагічна засвойвае тэзу геапалітыкі. Гэта азначае, што масы ўжо лічацца падрыхтаванымі для зменаў і наспеў час звароту да палітычных дзеянняў. Нездарма ў Расіі атрымаў статус «геройскага ўчынку» пераход роты дэсантнікаў з Босніі на Прышцінскі аэрадром. Пры ўсёй нязначнасці вынікаў ён вярнуў пачуццё вялікадзяржаўнага гонару і самапавагі мноству расіянаў.

Па сутнасці, гаворка пра вялікую геапалітыку (супрацьстаянне Амерыцы) не мае цяпер іншага зместу, чым аднаўленне самаўпэўненасці насельніцтва ранейшай звышдзяржавы. Мала грошай, жыць цяжка, дык хоць бы мець пачуццё ўплыву на свет: «багатыя таксама залежаць ад нас».

Паколькі расійскія выбары адкрываюць магчымасць прыходу да ўлады новых груповак палітыкаў, дык прапагандуемая А.Лукашэнкам прапанова стварыць «цэнтр новай сілы» можа паслужыць як асабіста яму, так і тым групоўкам, якіх выбары могуць прывесці ў Крэмль на аснове такога тлумачэння карыснасці беларуска-расійскага саюза.

У такіх умовах Захаду больш прыемна бачыць Беларусь буферам паміж NATO і Расіяй, чым у якасці блок-паста № 1 на памежжы паміж блокамі дзяржаваў. Адсюль вынікаюць намаганні стабілізаваць адносіны з галавой беларускай улады. Вузкі склад апазіцыі, хісткасць некаторых яе дзеячаў, малая народная падтрымка, засведчаная нешматлікімі пратэстантамі, — не павялічваюць спадзяванняў на магчымасці ўнутраных зменаў. Парламенцкія выбары на Беларусі ў наступным годзе нарэшце развяжуць вузельчык нелегітымнасці Нацыянальнага сходу і легітымнага Вярхоўнага Савета, пасля чаго А. Лукашэнка проста пераможа на прэзідэнцкіх выбарах.

Ва ўсялякім разе, сёння палова нашага грамадства абыякавая да іншых сцэнараў бліжэйшай будучыні. Зразумела, што А.Лукашэнка, гаворачы пра геапалітыку, выставіў Захаду закамуфляваны ультыматум — не будзе абвастрэння, калі Захад пойдзе на нармальныя стасункі з сённяшняй Беларуссю. Стабільнасць у геапалітычных раскладах каштуе дорага, бо забяспечвае эканамічную і сацыяльную стабільнасць. Тамуператворымся мы ў цэнтр новай сілы ці застанемся ў баку ад яго, вырашыцца ўвосень у Маскве пры падпісанні дагавора. Калі А.Лукашэнка здолее навязаць Крамлю сваю волю, значыць прыйдзецца «супрацьстаяць». ■

ТВОРЧАСЦЬ

# Кто мы в современном общеевропейском искусстве?

## Состоялся тур белорусских художников по городам Франции

**Татьяна НОВИКОВА**

**«Известные у себя на родине» белорусские художники этим летом совершили тур по городам Франции и Италии. Ольга Сазыкина, Артур Клинов, Витольд Левченя, Тимофей Изотов и куратор Инна Реут приняли участие в проекте «Интер-визо», который был организован Варшавской академией искусств и польским искусствоведом Эулалией Домановской, в число спонсоров вошли Министерство культуры Польши и европейский фонд IDEE.**

«Интер-визо» должен был представить французской и итальянской публике современное искусство Восточной Европы, в данном случае — польских, литовских, белорусских и русских художников, работающих в жанрах инсталляции, перформанса и живописи. Такая грандиозная задача была решена с присущим современности минимализмом. Организаторы и круг спонсоров арендовали автобус, погрузили туда «известных у себя на родине» авторов и прокатили их по Западной Европе с выставками в Понт а Муссоне, Марселе и на знаменитой вилле Валькампано. Что удивительно, расходы по проживанию и питанию легли на плечи самих художников. Им пришлось мобилизовать свои ресурсы — они провели в Европе почти месяц.

Странствие стало основной темой этой акции. Но авторы представили себя так, как сочли нужным, и только А. Клинов включил в свою экспозицию уже знакомые белорусской публике чемоданы, в данном случае означавшие связь с путешествием. При всей скудости средств, которыми располагали художники, им удалось неплохо себя показать и привлечь к себе внимание публики и галеристов. В Марселе они заняли довольно большую экспозиционную площадь в Академии искусств и в альтернативной галерее RLBQ. Знаменитый итальянский галерист Пио Монти тепло принял художников на собственной вилле Валькампано, где в свое время побывали Йозеф Бойс и Энди Уорхол.

В общем западноевропейский интерес к восточноевропейскому искусству не убывает. Об этом говорит тот факт, что отдельные авторские работы на некоторое время остались в галереях, вероятно, для более внимательного изучения. Эулалия Домановска считает, что подобные контакты полезны обеим сторонам — связь с Западом, утерянная в 20-е годы, восстанавливается. Это не первый подобный проект Эулалии: например, белорусские и польские художники на протяжении нескольких последних лет делали совместные выставки в Варшаве, Витебске, Минске и других городах. Однако связь, о которой упоминает куратор, должна бы за это время не просто восстанавливаться, а и каким-то образом оформляться, а вещи — называться своими именами. Иначе это напоминает игру вне правил. Мне так и не удалось понять, кто кому теперь кем приходится в современном «общеевропейском» искусстве.

Мне кажется, что эти отношения хорошо проиллюстрировала судьба инсталляции Ольги Сазыкиной. Художница сделала работу под названием «Paradise» (Рай). Во дворе марсельской галереи на бумажную пульпу, покрашенную в голубой цвет, она посеяла зерна белорусской пшеницы. На небольшом открытом пространстве, почти в квадратный метр, должна была вырасти голубая, райская трава... Вместо этого публика увидела нечто другое. В «рай» пришли местные муравьи и растащили все зерно по своим норам. Художники, наблюдавшие природный перформанс, говорят, что выглядело это красиво. ■




**Белорусские художники с коллегами из Литвы, Польши и России возле галереи**

Верхний ряд: первая справа – **Ольга Сазыкина**, вторая справа – **Инна Реут**, первый слева – **Артур Клинов**

Нижний ряд: четвертый справа – **Витольд Левченя**

ПОШТА

## Асабісты выбар

Паважаныя НАВІНЫ, хачу падзяліцца, 20 ліпеня скончыўся тэрмін паўнамоцтваў Лукашэнкі — а разам з гэтым зрабіліся несапраўднымі і ўсе тыя марыянеткавыя органы, якія падпарадкоўваюцца яму.

Такім чынам, з 21 ліпеня я лічу сябе цалкам вызваленым ад усялякіх абавязкаў перад гэтай «уладай» і маю права не выконваць аніякіх яе загадаў, сыходзячы з яны з вуснаў Лукашэнкі, чыноўніцы, міліцыянта альбо каго яшчэ. Я падпарадкоўваюся толькі свайму сумленню і сваёй грамадзянскай правасвядомасці.

Гэта мой асабісты выбар як чалавека і грамадзяніна, больш таго, у якасці грамадзяніна — гэта мой непасрэдны абавязак.

**Андрэй РАСІНСКІ**

## Сон в летнюю ночь

Недавно в лунную ночь приснился мне сон, будто моя жена, наглядевшись белорусского телевидения, загадала мне несколько загадок, на которые я сразу ответить не смог. Интересно, сможет ли ответить на них читатель НАВІНАЎ?

Будет ли умный человек часто беспардонно врать? Будет ли умный человек заниматься самовосхвалением? Будет ли умный человек абвинять в преступлениях, обзывать (жулики, воры, дермократы и т.д.), навешивать ярлыки на невинных людей до заключения суда? Будет ли умный человек призывать всех не выполнять законы, а только то, что он придумает? Будет ли умный человек держать около себя холуев? Будет ли умный человек заниматься фальсификацией фактов? Будет ли умный человек всем угрожать и всех запугивать, в том числе и NATO, а сам всех бояться? Будет ли умный человек хвалить Гитлера и его порядок, что равноценно плевку в душу всем участникам войны (в том числе и мне), которые сражались с гитлеровским фашизмом и проливали на фронтах свою кровь?

Могут ли быть у одного человека все эти "человеческие свойства и качества"? Проснувшись, я вспомнил такого человека. А вы знаете столь одиозную личность?

**Иван ГЛАЗОВ, Минск**

## Нелегитимный президент?

Да, именно такой у нас руководитель страны с 21 июля. Гражданин Лукашенко опять сидит в президентском кресле. И все потому, что у него сила. И еще потому, что часть пенсионеров поддерживает его.

Я тоже пенсионер вот уже два года. Неужели им не понятно, что этот гражданин их дурит: одной рукой добавляет какую-то пенсию, а другой, подымая цены, забирает.

Как я убедился за пять лет, Александр Лукашенко хороший артист. Как он клянется, когда выступает по телевизору. Какой у него смелый взгляд, когда он говорит про NATO. А вы слушаете, граждане республики, теперь уже этого бывшего президента. А ведь это всего-навсего колибри против этой махины. В 1994 этот человек клялся в верности тогдашней Конституции. Чтобы посидеть еще на так полюбившемся ему президентском кресле. Он уже в 1996 забыл про ту Конституцию, которой присягал, и создал послушный ему «карманный» парламент. За пять лет ничего не сделал для людей, за исключением того, что поднял до высот Эвереста цены.

И объявляет по телевизору, что ему доверяют люди. Гражданин Лукашенко! Люди ждут не дождутся, когда ты уйдешь. Сам, без лишнего шума. Ты ничего не сделал для нас, твоих граждан, и не сделаешь. Мы в этом убедились. Противно смотреть на цифры, которые нам подсовывают по телевизору твои подручные. Даже твои самые горячие сторонники и пенсионеры отвернулись от тебя. Словом, извини, гражданин Лукашенко, но нам нужен другой президент. Мы просим, уходи...

**Анатолий РОМАНОВИЧ, пенсионер, Минск**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 583 Нумар падпісаны ў друк 10/08/99 (15:00) Наклад — 16.640

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012